Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

15 СЬНЕЖНЯ 1929 г.
№ 14 (73)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР па пытаньні эканомнага выдаткаваньня чорных мэталяў . . . . . . . . . . . . 5
2. Тлумачэньне Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР пра сацыяльнае страхаваньне асоб, якія працуюць за процанты з звароту . . . . . . . . . . . . . . . . . 5
3. Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР пра сацыяльнае страхаваньне асоб, занятых па найму з сваім канём 6
4. Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР пра разьмер уносаў на сацыяльнае страхаваньне, якія падлягаюць спагнаньню з працоуных арцеляй пры выкананьні імі работ у парадку дагавору падраду . . . . . . . . . . . . 7
5. Пастанова НК Працы БССР пра ўмовы працы родзічаў прыватнікаў і ўласьнікаў прыватных прадпрыемстваў і гаспадарак . . . . . . 7
6. Пастанова НК Працы БССР пра скасаваньне пастановы свае за 14/I-1925 г. „Пра правілы бясьпекі пры электрычных пабудовах сільных токаў“ . . 8
7. Абежнік НК Юстыцыі і Найвышэйшага Суда БССР пра парадак працы судова-выканаўчага апарату . . . . . . . . . . 8

   Дадатак. Інструкцыя па справаводзтву, рахункаводзтву і асноўных правілах судовага справавядзеньня судовых выканаўцаў . . . 9
8. Абежнік НК Юстыцыі і НК Фінансаў БССР пра парадак спагнаньня гэрбавага збору па заявах і скаргах, якія падаюцца пракурорам . . . 16
9. Абежнік НК Юстыцыі БССР пра ўдзел органаў пракуратуры ў правядзеньні кампаніі праверкі выкананьня калектыўных умоў . . . . . 19
10. Абежнік НК Юстыцыі БССР пра барацьбу з парушэньнем бюджэтна-касавай дысцыпліны . . . . . . . . . . . . . . 20
11. Пастанова НК Унутраных Спраў БССР пра дапаўненьне інструкцыі свае „Пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“ . . . 20
12. Пастанова НК Унутраных Спраў і НК Аховы Здароўя БССР пра зьмену рэдакцыі п. 2 абежніка свайго „Пра выдачу пасьведчаньняў на права карыстаньня дадатковай па хваробе жылой плошчаю“ . . . . . . 21
13. Дадатковы сьпіс гаспадарак навучальных установаў, падпарадкаваных НК Асьветы, якім надаецца права крэдытавацца ў крэдытных установах і абавязвацца вэксалямі, браць заказы і рабіць іншыя патрэбныя ўмовы, а таксама ўваходзіць членамі ў арганізацыі і аб'яднаньні, якія ўтвараюцца для агракультурных палепшаньняў і тэхнічнага ўдасканаленьня і ня маюць на мэце беспасрэднай камэрцыйнай карысьці . . . . . . . . . . 21
14. Пастанова НК Земляробства БССР пра арганізацыю паляўнічага заказьніка ў Панькаўскім лясьніцтве Магілеўскае акругі . . . . . . 22
15. Інструкцыя НК Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР пра парадак афармленьня дакумэнтаў і назначэньня сацыяльнага забясьпечаньня непрацаздольным членам сем'яў вайскоўцаў-льготнікаў радавога і малодшага начальніцкага складу, што адбываюць бесьперапынную сапраўдную вайсковую службу ў кадравых частках Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. . . . . 2
16. Загад па Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР пра выраб, праверку і кляйменьне вымяральных станкоў для дроў . . . . . 27

    Дадатак: Правілы пра выраб, праверку і кляйменьньне вымяральных станкоў для дроў . . . . . . . . . . . 27

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### па пытаньню эканомнага выдаткаваньня чорных мэталяў.

У сувязі з напружанасьцю балянсу чорных мэталяў, Эканамічная Нарада, паводле дырэктывы Савету Працы і Абароны за 6/IX г.г. пра эканомнае выдаткаваньне мэталяў (пр. № 36/434) пастанаўляе:

1. Запрапанаваць будаўнічым арганізацыям і органам, якім дару- чана зацьверджаньне праектаў усіх відаў будаўніцтва, дапушчаць ска- рыстаньне будаўнічых мэталяў толькі ў самых неабходных выпадках, замяняючы іх іншымі відамі будаўнічых матарыялаў, кіруючыся правілямі Камітэту па Будаўнітву пра замену дэфіцытных матарыялаў недэфіцытнымі (Бюл. СНК 1929 г. № 3, арт. 1, і № 7, арт. 2).

2. Запрапанаваць Камітэту па Стандартызацыі с.-г. машын пры распрацоўцы стандартаў новых машын і прыладаў, а таксама пры пераглядзе існуючых тыпаў машын імкнуцца да большай эканоміі мэталю, кіруючыся агульнасаюзным стандартам на мэталь і мэталёвыя вырабы.

3. Абавязаць установы, прадпрыемствы і арганізацыі пераглядзець свае заяўкі на 1929/30 г. на патрэбныя ім будаўнічыя мэталі і мэталёвыя вырабы ў бок большага скарачэньня іх і ўдакладненыя заяўкі падаць у Н. К. Гандлю не пазьней 1 сьнежня г.г. з копіяй Заходняй Канторы Усесаюзнага Мэталюргічнага Сындыкату (УМС). Н. К. Гандлю павінен тэрмінова разглядзець гэтыя заяўкі і скласьці сводную заяўку на мэталі не пазьней 15 сьнежня.

4. Запрапанаваць ВСНГ і Заходняй Канторы УМС у тыднёвы тэрмін устанавіць нормы запасаў мэталю на прадпрыемствах і сачыць за тым, каб накапленьне запасаў не перавышала ўстаноўленых норм.

5. Абавязаць усе ведамствы ўстанавіць нагляд за правільным выдаткаваньнем мэталяў на прадпрыемствах; органам будаўнічага кантролю ўзмоцніць свой кантроль за эканомным скарыстаньнем мэталяў у будаўніцтве.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнае Нарады БССР *М. Калевіч.*

17 лістапада 1929 г.

---

## 2. Тлумачэньне Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР

### пра сацыяльнае страхаваньне асоб, якія працуюць за проценты з звароту.

Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР тлумачыць:

1. Служачыя гандлёвых, дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установ, якія атрымліваюць плату ў выглядзе процантнага адлічэньня

ад прыбыткаў альбо звароту прадпрыемстваў, падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню толькі у тым выпадку, калі працоўная ўзнагарода выплачваецца ім звыш асноўнай гарантаванай заработнае платы.

2. Асобы, якія атрымліваюць толькі процантную ўзнагараду і ня маюць вызначанага гарантаванага заробку, сацыяльнаму страхаваньню не падлягаюць.

3. Паколькі разьмер узнагароды карабейнікаў і латошнікаў залежыць выключна ад сум зваротаў, карабейнікі і латошнікі нясуць на сабе камэрцыйную рызыку гандлёвых апярацый, якая зьяўляецца неўласьцівай для працоўных адносін, а таму карабейнікі і латошнікі не падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню.

Старшыня Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага
Страхаваньня пры НКП БССР *П. Саламонаў.*

Адказны Сакратар *В. Амстэрдам.*

18 лістапада 1929 г.

---

## 3. Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхахаваньня пры Н. К. Працы БССР

**пра сацыяльнае страхаваньне асоб, занятых па найму з сваім канём.**

На падставе пастановы Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы СССР за 10/V 1928 г. № 402 („Изв. НКТ" 1928 г. № 33) Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР пастанаўляе:

I. Асобы, якія заняты на сталай рабоце па найму з сваім канём у прамысловых і транспартных прадпрыемствах, апроч маючых сэзонны альбо часовы характар, падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню па ўсіх відах, калі на іх пашыраецца каляктыўны альбо працоўны дагавор і яны ня ўжываюць у сваёй рабоце наймовай працы.

Пытаньне аб сацыяльным страхаваньні асоб, занятых на сэзонных і часовых работах па найму з сваім канём, вырашаецца пастановамі Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП СССР.

II. Страхавыя ўносы вылічваюцца ў разьмеры 35% з агульнае сумы зарплаты, што атрымліваецца паказанымі ў арт. I асобамі пры рабоце з 1 канём і 20%—пры рабоце з 2 канямі.

III. Разьмер дапамог і пэнсіі па сацыяльнаму страхаваньню асобам паказаным у гэтай пастанове, вылічваецца з той заработнай платы, з разьліку якой былі вылічаны ўносы на сацыяльнае страхаваньне.

IV. Страхавыя ўносы на падставе гэтай пастановы павінны быць унесены з заработнай платы, якая выплачана пасьля 1/X 1929 г. незалежна ад тэрміну, за які яна выплачана.

Забясьпечаньне асоб, паказаных у гэтай пастанове, робіцца толькі па страхавых выпадках, якія наступілі не раней 1/X 1929 г.

Старшыня Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага
Страхаваньня пры НКП БССР *П. Саламонаў.*

Адказны Сакратар *В. Амстэрдам.*

18 лістапада 1929 г.

## 4. Пастанова Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры Н. К. Працы БССР

**пра разьмер уносаў на сацыяльнае страхаваньне, якія падлягаюць спагнаньню з працоўных арцеляў пры выкананьні імі работ у парадку дагавору падраду.**

У адпаведнасьці з арт. 15 „Палажэньня аб працоўных арцелях“ (З. З. БССР 1925 г. № 44, арт. 356) Рэспубліканскі Савет Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР пастанаўляе:

I. Пры выкананьні працоўнымі арцелямі работ у парадку дагавароў падраду ўносы на сацыяльнае страхаваньне выплачваюцца самімі арцелямі ў разьмеры 6% атрыманых за работы сум.

Пры вылічэньні ўносаў на сацыяльнае страхаваньне з сум, выплачаных арцелям за выкананыя работы, выключаюцца арганізацыйныя выдаткі, але ня больш 10% усяго кошту выкананых работ і выдаткі, зьвязаныя з купляй матарыялаў.

II. Усе плацяжы па сацыяльнаму страхаваньню, якія паступаюць ад працоўных арцеляў, залічаюцца поўнасьцю ў фонды, што знаходзяцца ў распараджэньні органаў сацыяльнага страхаваньня. Датацыйныя адлічэньні на мэдыцынскую дапамогу робяцца ў адпаведнасьці з пастановай ЦВК і СНК СССР за 11/IX 1929 г. „Пра парадак устанаўленьня адлічэньняў з сродкаў сацыяльнага страхаваньня на мэдыцынскую дапамогу застрахаваным“ (З. З. СССР 1929 г. № 59, арт. 549) у такім разьмеры, як і за асоб, што падлягаюць частковаму страхаваньню.

Старшыня Рэспубліканскага Савету Сацыяльнага Страхаваньня пры НКП БССР *П. Саламонаў.*

Адказны Сакратар *В. Амстэрдам.*

18 лістапада 1929 г.

---

Узгоднена з ЦСПСБ: адносьнік за 10/XI-1929 г. № 300/00/18.

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра ўмовы працы родзічаў прыватнікаў і ўласьнікаў прыватных прадпрыемстваў і гаспадарак.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Ніякія нормы працоўнага законадаўства не пашыраюцца на ўсіх асоб, якія працуюць у сваіх родзічаў—прыватнікаў і ўласьнікаў прыватных прадпрыемстваў, напр.: бацькоў, сыноў, дачок, мужа, жонкі, братоў, сясьцёр.

2. Працоўнае законадаўства не пашыраецца таксама на ўсіх родзічаў і асоб, якія працуюць у сялянскіх гаспадарках і залічаны членамі гаспадаркі (ядакамі).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

2 сьнежня 1929 г.
№ 76.

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра скасаваньне пастановы свае за 14/І 1925 г. „Пра правілы бясьпекі пры электрычных пабудовах сільных токаў“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

З выданьнем абавязковае пастановы НКП СССР за 8/Х 1929 г. № 327 „Пра правілы бясьпекі і правілы пабудовы электратэхнічных пабудоў сільных токаў нізкага і высокага напружаньня“ („Изв. НКТ“ 1929 г. № 45/46) скасаваць сваю пастанову за 14/І-1925 г. „Пра правілы бясьпекі пры электрычных пабудовах сільных токаў (З. З. БССР 1925 г. № 16, арт. 130).

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Праўны Інспэктар НКП БССР *Х. Гольдзінберг.*

3 сьнежня 1929 г.
№ 77.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Найвышэйшага Суда БССР

**пра парадак працы судова-выканаўчага апарату.**

*Усім акруговым судом.*

Нездавальняючае становішча працы судова-выканаўчага апарату ў значнай меры адбіваецца на тых дасягненьнях, якія маюць суды па разгляду грамадзянскіх спраў, бо толькі выкананьне рашэньня заканчвае справу і робіць усю папярэднюю працу карыснай. З прычыны гэтага трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на справу выкананьня судовых рашэньняў.

У шэрагу мерапрыемстваў, якія могуць палепшыць выкананьне судовых рашэньняў, трэба адзначыць: узмацненьне нагляду і кантролю за працай судовых выканаўцаў, скарыстоўваньне канцэлярый народных судоў на выкананьне канцэлярскай работы судовых выканаўцаў (апроч грашовага справаводзтва), спрашчэньне і ўдасканаленьне справаводзтва і рахункаводзтва, якія тычацца судовага справавядзеньня судовага выканаўцы.

Паказаныя мерапрыерствы могуць быць, між іншым, ажыцьцёўлены праз уліцьцё камэр і бюро судовых выканаўцаў, апроч існуючых бюро ў акруговых цэнтрах, у адпаведныя народныя суды па месцы знаходжаньня камэр судовых выканаўцаў, а таксама праз ускладаньне нагляду, кантролю і адказнасьці за пастаноўку працы па выкананьню судовых рашэньняў судовымі выканаўцамі на народных судзьдзяў тых вучасткаў, у склад якіх будуць уліты адпаведныя выканаўцы.

Маючы на ўвазе, што адзін судовы выканаўца абслугоўвае некалькі раёнаў і што выкананьне народнымі судамі, у камэры якіх судовыя выканаўцы непасрэдна ня ўліваюцца, запатрабаваньня арт. 315 ГПК можа прывесьці да разнабою ў паказаньнях, то ў мэтах адхіленьня гэтага зьявішча неабходна, каб усе паказаньні агульнага (адміністрацыйнага) характару ў парадку арт. 315 ГПК вытвараліся праз судзьдзю таго народнага суда, у склад якога ўваходзіць судвыканаўца. Разам з гэтым Народны Камісарыят Юстыцыі і Найвышэйшы Суд

павінны зьвярнуць увагу і на кантроль за дзейнасьцю існуючых бюро судовых выканаўцаў у акруговых цэнтрах, агульны кантроль за дзейнасьцю якіх і рэвізія ўскладаюцца на акруговыя суды, а вырашэньне пытаньняў і дача тлумачэньняў па канкрэтных справах у парадку арт. 315 ГПК застаецца за народнымі судамі.

Прымаючы пад увагу паказанае вышэй, Народны Камісарыят Юстыцыі і Найвышэйшы Суд прапануюць:

1. Да 1-га студзеня 1930 г. усіх судовых выканаўцаў, апроч існуючых у акруговых цэнтрах бюро, уліць у адпаведныя народныя суды па месцы знаходжаньня камэры судовага выканаўцы.

2. У сувязі з гэтым на народнага судзьдзю таго народнага суда, у склад якога ўліваецца адпаведны судовы выканаўца, ускласьці адказнасьць за пастаноўку працы ў гэтага судовага выканаўцы.

3. Для ажыцьцяўленьня сталага кантролю і нагляду за бюро судовых выканаўцаў, якія застануцца існаваць самастойна ў акруговых цэнтрах, замацаваць аднаго члена акруговага суда, адказнага за пастаноўку працы бюро.

4. З 1-га студзеня 1930 году ўвесьці ў жыцьцё запатрабаваньні далучанай да гэтага абежніку інструкцыі па справаводзтву і рахункаводзтву судовага справавядзеньня судовых выканаўцаў і вядзеньне справаводзтва судовых выканаўцаў, апроч грашовага рахункаводзтва, ўскласьці на канцэлярыю народнага суда.

5. Пасьля правядзеньня ўліцьця судовых выканаўцаў у склад народных судоў, народныя суды, у парадку арт. 315 ГПК, паказаньні агульнага характару даюць судовым выканаўцам толькі праз народных судзьдзяў, на якіх ускладзена адказнасьць за пастаноўку працы судовых выканаўцаў.

За Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Міхайлаў*.

Нам. Старшыні Найвышэйшага Суда *Гінзбург*.

13 лістапада 1929 г.
№ 81.

---

Дадатак.

## Інструкцыя

### па справаводзтву, рахункаводзтву і асноўных правілах судовага справавядзеньня судовых выканаўцаў.

#### I. Аульныя палажэньні.

1. Для спрашчэньня і палепшаньня тэхнікі справаводзтва і рахункаводзтва судовага справавядзеньня судовых выканаўцаў кнігі, што ўжываліся ў справаводзтве іх — настольныя рэестры для запісу паступаючых выканаўчых лістоў, а таксама журналы паступаючых і выходзячых папер, за выключэньнем грашовай і квітовых кніг, з 1-га студзеня 1930 г. касуюцца і ўсё канцэлярскае справаводзтва судовых выканаўцаў пераводзіцца на картачную сыстэму.

2. Замест кніг уводзіцца спачатку будучага 1930 г. рэгістрацыя паступаючых да судовых выканаўцаў выканаўчых лістоў на адпаведных картках (форма карткі пры гэтым далучана, па якой карткі заказваюцца для ўсіх судовых выканаўцаў акруговым судом).

Уся іншая ўваходзячая карэспандэнцыя, што атрымліваецца на імя судовага выканаўцы, нідзе не рэгіструецца, а далучаецца да адпаведных нарадаў альбо спраў. Таксама не рэгіструюцца і выходзячыя паперы, а нумарам тае або іншае паперы, якая адсылаецца зьяўляецца нумар тае справы або нараду, да якіх яна датычыцца і ў якіх будзе хавацца яе копія, а калі копія не пакідаецца, то ўваходзячая папера з адзнакай аб дачы адказу. Пры гэтым, калі адсылаецца справа, то аб часе адсылкі робіцца адзнака ў належным месцы (графа 12) рэгістрацыйнай карткі, у якую павінны быць дакладна ўнесены ўсе зьвесткі, якія патрабуюцца гэтаю формаю і якая запаўняецца па правілах, паказаных у наступным разьдзеле інструкцыі.

### II. Нумарацыя і рэгістрацыя спраў.

3. Кожны паступіўшы да судовага выканаўцы і прыняты да справаводзтва выканаўчы ліст павінен быць запісан на рэгістрацыйнай картцы па далучанай да гэтай інструкцыі форме з захаваньнем наступных правілаў:

а) першая графа верхняга (першага) радка карткі прызначана для паказаньня ў ёй праз умоўнае адзначэньне трохзначнымі лічбамі роду спраў і старон па іх у мэтах палягчэньня працы па складаньню статыстычнай справаздачы; пры карыстаньні гэтай графой замест таго, каб для вызначэньня роду справы і катэгорыі старон пісаць словамі: прац. справа, алім. справа, жылішчн. справа, па іску дзяржаўнай установы да прыватнай установы і г. д., устанаўляюцца для паказаньня катэгорый спагнальнікаў і даўжнікоў і для паказаньня роду справы такія лічбовыя адзначэньні:

| | | |
|---|---|---|
| дзярж. установы і прадпрыемствы адзначаюцца лічбаю . . . . . . . . . . . . | 1 | |
| каперацыйныя ўстановы і прадпрыемствы . . | 2 | |
| прафэсійныя арганізацыі . . . . . . . | 3 | |
| прыватныя асобы . . . . . . . . . | 4 | і г. д. |
| Агульна-іскавыя справы адзначаюцца лічбаю . | 1 | |
| працоўныя . . . . . . . . . . . . . | 2 | |
| алімэнтныя . . . . . . . . . . . . . | 3 | |
| спадчынныя . . . . . . . . . . . . | 4 | |
| па падрадах і пастаўках . . . . . . . . | 5 | |
| жылішчныя . . . . . . . . . . . . | 6 | |
| па забясьпечаньню іскаў . . . . . . . . | 7 | і г. д., |

так што калі ў гэтай графе напісана лічба 145, то гэта будзе азначаць, што даная справа зьяўляецца іскам дзяржаўнай установы або прадпрыемства да прыватнае асобы, які іск зьвязаны з выкананьнем умоў дагавору па падраду або пастаўцы. Наогул, пры гэтай сыстэме ўмоўных адзначэньняў трохзначнымі лічбамі першая лічба будзе заўсёды паказваць катэгорыю істца, другая — катэгорыю адказчыка, даўжніка і трэцяя — род данае справы. Паказаныя адзначэньні роду спраў лічбамі могуць быць заменены рознымі колерамі паперы для картак, як напрыклад: алімэнтныя справы рэгіструюцца на картках з чырвонае паперы, працоўныя — на картках з зялёнай паперы, але ў гэтым выпадку ўжо тут прыдзецца ўжываць паперу для картак з шматлікімі колерамі;

б) у другой графе першага радка паказаны на картцы лічбы месяца і над тэю лічбаю, на якую па справе прызначана правядзеньне

тых або іншых выканаўчых дзеяньняў, ставіцца які - небудзь умоўны знак; альбо яшчэ лепш можна накладаць для гэтага спэцыяльны індыкатар, каб адразу было відаць, што выкананьне тых або іншых дзеяньнаў па справе прызначана на пэўную дату месяца;

в) у трэцяй графе таго-ж першага радка паказваецца парадкавы нумар справы (у парадку натуральнага шэрагу лічбаў, які нумар паказваецца і на самой справе і ў альфабэце і на ўсіх паперах, што датычацца данае справы і падлягаюць далучэньню да яе, а таксама ўваходных і выходных (арыгіналаў і копій);

г) у чацьвертай графе пасьля слова (ад) паказваецца, ад каго і калі паступіў выканаўчы ліст (напрыклад: „ад Камісарыяту Земляробства БССР паст. 20 Х—1929 г.“), пры чым пры запісе ў гэтай графе назваў устаноў ніякіх скарачэньняў не дазваляецца (нарсуд, РВК, выканком і г. д.) і ў адносіне да складаных найменьняў (гэта значыць, складзеных з некалькіх слоў) належыць першым запісваць тое слова з назвы ўстановы, якім адзначаецца прыналежнасьць апошняй да аднаго якога-небудзь пэўнага роду ўстаноў (напрыклад, „суд“), другім—слова, якое азначае прыналежнасьць данае ўстановы да аднаго і таго-ж віду аднародных устаноў (напрыклад, „народны“, „акруговы“), трэцім — слова (або словы), якое індывідуалізуе даную ўстанову ў шэрагу ўстаноў аднаго і таго-ж віду (словы, устанаўляючыя, напрыклад, тэрытарыяльную адзнаку) і г. д. (як напрыклад: „Суд Народны Смалявіцкага раёну, Менскай акругі“, „Міліцыя Раённая Смалявіцкая, Менскай акругі“ і г. д.);

д) пятая графа (у другім радку) вызначана для паказаньня прозьвішча таго судовага выканаўцы, які вядзе справу;

е) у шостай графе паказваецца, якім судом выданы выканаўчы ліст, калі і за якім нумарам (напрыклад: „Выканаўчы ліст, выд. Менскім акруговым судом 25/IX—1929 году за № 1715“);

ж) у графе 7-ай паказваецца найменьне спагнальніка (прозьвішча, імя і імя па бацьку спагнальніка, альбо найменьне ўстановы, калі гэткая зьяўляецца спагнальнікам, як юрыдычная асоба) і адрас яго; у графе 8 паказваецца найменьне даўжніка і адрас яго, альбо адрас знаходжаньня яго маемасьці, калі на апошнюю зварочваецца спагнаньне па выканаўчаму лісту;

з) у графе 9 паказваецца кароткі зьмест судовага рашэньня (напрыклад: „Спагнаць 1792 р. 42 к. доўгу па вэксалю з 6% гадавых з 1/IV—1929 году па дзень выплаты і 8 р. 40 к. судвыдаткаў“);

і) у графе 10 паказваюцца ў адпаведных радкох арабскімі лічбамі даты ўтварэньня таго або іншага дзеяньня судовых выканаўцаў па справе (як напрыклад: даручана позва —21, 10, апісана маемасьць 29, 10 і г. д.), а таксама паказваецца спагнаная па выканаўчаму лісту сума, якая запісваецца ў адпаведных графах карткі ў залежнасьці ад роду спагнаных грошай (для запісу грашовых сум графы на картцы паказаны дапасавальна да формы грашовай кнігі), пры чым у графе— „выдадзены грошы“ паказваецца толькі дата і сума выдадзеных па выканаўчаму лісту грошай спагнальніку, паколькі такія грашовыя сумы, як, напрыклад, гэрбавы збор, судовыя мыты і зборы за выканаўчыя дзеяньні, у большасьці выпадкаў здаюцца ў касы НКФ, з прычыны нязначнасьці такіх збораў па аднэй асобнай справе, не па кожнай справе паасобку, а разам па некалькіх справах і час здачы іх у касу НКФ можна праверыць ужо па квітанцыях, якія выдаюцца атрымаўшай іх касай НКФ. Калі-ж па выканаўчаму лісту ўтвараюцца пэрыя-

дычныя спагнаньні, то трэба пасьлядоўна паказваць дату і суму кожнага спагнаньня і дату і суму кожнай выдачы грошай спагнальніку.

У выпадку, калі на аднэй картцы ня хопіць месца для запісу пэрыядычных плацяжоў, то такія могуць запісвацца на адвароце карткі, альбо на другой картцы, на якой адзначаецца той-жа самы нумар справы;

к) графа 12 прызначана для адзнак такіх дзеяньняў па справе і асобных этапаў яе руху, якія не прадугледжаны ні аднэй графой карткі і якія бываюць патрэбны альбо для справаздачы, у залежнасьці ад патрабаваньняў апошняй, альбо для дачы зацікаўленым асобам тае або інше даведкі па справе (напрыклад: тут можна скарочана адзначыць, што даныя, паказаныя на картцы, увайшлі ў такую-та справаздачу, што спагнаная сума па выканаўчаму лісту адаслана спагнальніку пераводам па пошце, што справа накіравана ў суд для дачы тлумачэньня ў парадку арт. 185 ГПК, аб прыпыненьні выкананьня рашэньня і г. д.) і

л) у графе 11 паказваецца дата адпраўленьня справы ў суд у парадку арт. 307 ГПК, калі выкананьне судовага рашэньня па ёй ужо скончана.

4. У мэтах арганізацыі даведак па справах заводзіцца альфабэтная кніга, у якую ў альфабэтным парадку прозьвішчаў запісваюцца як спагнальнікі, так і даўжнікі (прозьвішча, імя і імя па бацьку) і нумары спраў, якія паказаны на рэгістрацыйных картках (альфабэтная рэгістрацыя спагнальнікаў і даўжнікоў можа весьціся і ня ў кнізе, а на асобных альфабэтных картках — на чыстых блянках), пры чым рэгістрацыя ў альфабэтнай кнізе спагнальнікаў альбо даўжнікоў, якія зьяўляюцца юрыдычнымі асобамі, утвараецца на адпаведныя літары радовых найменьняў устаноў ці прадпрыемстваў з захаваньнем правіл, якія выкладзены ў п. „г“ арт. 3 гэтае інструкцыі.

5. Для таго выканаўчага ліста, які судвыканаўцам атрымліваецца непасрэдна з нарсуду таго вучастку, у які судовы выканаўца ўліты, самастойна картка можа і ня весьціся. Можна для гэтае мэты прыстасаваць картку, якая існуе ў нарсудзе для рэгістрацыі грамадзянскіх спраў. У апошнім выпадку на адвароце карткі для рэгістрацыі грамадзянскіх спраў павінны быць надрукаваны зьвесткі, якія патрабуюцца гр. гр. 1, 2, 3, 4, 5, 10, 11 і 12 карткі для рэгістрацыі судовай вытворчасьці судовых выканаўцаў.

*Увага.* Як мэтазгодней будзе весьці рэгістрацыю выканаўчых лістоў, ці на самастойных картках, ці на картках нарсуда для грамадзянскіх спраў, — вырашыць практыка.

### III. Грашовае справаводзтва.

6. У кожнага судовага выканаўцы для запісу паступаючых да яго па выканаўчых лістох грашовых сум павінны быць заведзены грашовая кніга і квітанцыйныя кніжкі па ўстаноўленай форме; гэтыя кнігі абавязкова павінны быць пранумараваны, прашнураваны і прапячатаны (грашовыя кнігі замацоўваюцца акруговым судом, а квітанцыйныя кніжкі ў раёнах—мясцовым РВК і ў судовых выканаўцаў акругова цэнтру — акруговым судом), пры чым у арганізаваных бюро судвыканаўцаў вядзецца адна грашовая кніга для запісу на прыбытак і ў выдатак усіх сум, якія запрыходаваны па квітанцыйных кніжках усімі судовымі выканаўцамі бюро.

7. У мэтах скарачэньня працы па запісу спагнаных судовымі выканаўцамі грошай у квітанцыйных кніжках прыходуюцца паступаючыя сумы з падзяленьнем іх па роду іх па квітанцыях (парадкавы нумар якіх павінен весьціся з пачатку бюджэтнага году) з адзначэньнем і нумару кніжкі ў трох паасобніках пад капіравальную паперу, а не так, як гэта практыкуецца ў сучасны момант, што адны і тыя-ж запісы ў квітанцыйнай кніжцы ўтвараюцца тры разы, з якіх адзін паасобнік выдаецца на рукі асобе, заплаціўшай грошы, другі — далучаецца да справы, а трэці застаецца ў квітанцыйнай кніжцы, пры чым у бюро судовых выканаўцаў, дзе адна агульная канцэлярыя для ўсіх гарадзкіх судовых выканаўцаў, кожны судовы выканаўца пры другім паасобніку квітанцыі перадае спагнаныя ім грашовыя сумы загадчыку бюро судовых выканаўцаў для запісу іх парадкам, паказаным ніжэй, па агульнай грашовай кнізе, а таксама і на рэгістрыцыйнай картцы, як паказана вышэй у арт. 3, п. „і“, данае інструкцыі, пры чым другі паасобнік квітка прыкладаецца да справы загадчыкам бюро.

8. У грашовую кнігу абавязкова належыць запісваць у хаиалёгічным парадку ўсе без выключэньня паступаючыя да судовых выканаўцаў грашовыя сумы, у тым ліку спагнаныя сумы па найму фурманак і сутачных, паводле запісаў іх па квітанцыйных кніжках і ўсе выдачы па належнасьці грошай, якія спагнаны па выканаўчых лістох, але, паколькі зьвесткі аб паступіўшых грашовых сумах па кожнай справе будуць падрабязна паказаны на рэгістрацыйных картках, то ў мэтах некаторага скарачэньня працы ў грашовую кнігу можна запісваць на прыбытак ў адным радку агульную суму паступіўшых грошай адразу па некалькіх квітанцыях і за некалькі дзён (напрыклад, за 3-5 дзён) з паказаньнем толькі ў кнізе, што паступіўшыя грошы ад розных асоб запісаны па квітанцыйнай кніжцы №______у квітанцыях з № квіт. такога-та за такі-та дзень да № такога-та за такі-та дзень ўключна і з адзнакай таксама ў адпаведнай графе, пад якімі артыкуламі грашовай кнігі запісаны ў выдатак гэтыя грошы (у выдатак грошы запісваюцца пад асобным артыкулам для кожнага спагнальніка), і ў сваю чаргу супроць кожнага выдатковага артыкулу кнігі павінны быць паказаны у адпаведнай графе прыбытковы артыкул кнігі на выдадзеную грашовую суму. Пры гэтым у бюро судовых выканаўцаў, дзе вядзецца адна грашовая кніга для ўсіх гарадзкіх судовых выканаўцаў, загадчыкам бюро судовых выканаўцаў у грашовай кнізе па прыбытку, апроч нумару квітанцыйнай кніжкі і парадкавых нумароў квітанцый, пад якімі запрыходаваны паступіўшыя грошы, павінна паказацца і прозьвішча таго судовага выканаўцы, ад якога паступілі на прыбытак спагнаныя па выканаўчых лістох грашовыя сумы.

9. Грашовая кніга, а таксама і квітанцыйныя кніжкі павінны весьціся чыста і па мажлівасьці без паправак і ні ў якім разе не павінны дапушчацца падчысткі, а ў выпадку памылак, ўсякія выпраўленьні павінны быць зроблены чырвоным атрамантам і абавязкова абумоўлены, з подпісам гэтае абумовы судовым выканаўцам.

10. Апраўдальныя дакумэнты да грашовай кнігі павінны падшывацца да асобнага нараду ў храналёгічным парадку па меры іх накапленьня з адзнакай на кожным дакумэнце выдатковага артыкулу грашовае кнігі, да якога той або іншы дакумэнт адносіцца, і старонкі грашовае кнігі. Пры чым расходваньне спаганяемых сум на наём падвод і сутачныя выдаткі павінна быць апраўдана адпаведнымі дакумэнтамі (расьпіска падводчыка, разьлік на сутачныя).

11. Судовыя выканаўцы ўсе паступаючыя да іх у прыбытак Рэспублікі, як па дзяржаўнаму, так і мясцоваму бюджэту, грашовыя сумы павінны здаваць па належнасьці ў адпаведныя касы НКФ не радзей, як адзін раз у тыдзень, а пры паступленьні больш-менш значных сум здаваць іх адразу-ж пасьля паступленьня іх; усе-ж тыя сумы, якія падлягаюць перадачы паводле выканаўчых лістоў спагнальнікам, судовыя выканаўцы таксама ні ў якім разе не павінны затрымліваць у сябе, а павінны перадаваць іх па належнасьці неадкладна; у выпадку-ж немагчымасьці адразу перадаць іх спагнальніку, з прычыны напрыклад, перамены і невядомасьці адрасу апошняга, здаваць іх на хаваньне ў Дзяржаўны Банк ці пазычкова-ашчадную касу НКФ на беспрацэнтны бягучы рахунак судовага выканаўцы (толькі не на асабовы).

12. З тае прычыны, што сакратары судоў значна загружаны працаю, рахункаводзтва павінна весьціся непасрэдна самім судовым выканаўцам. Гэтая абставіна выклікаецца таксама і тым, што вядзеньне рахункаводзтва іншай асобай можа на практыцы прывесьці да заблытанасьці разрахункаў між судовым выканаўцам і асобаю, якая вядзе рахункаводзтва.

Народны судзьдзя разам з прадстаўніком грашовай часткі РВК абавязан не радзей як адзін раз у 2-3 месяцы абрэвізаваць рахункаводзтва і наяўнасьць грошай, аб чым складаць адпаведны акт, копія якога адсылаецца ў акруговы суд.

### IV. Агульныя правілы справаводзтва.

13. Выходзячыя паперы, выконваемыя апаратам суда, складаюцца з захаваньнем ніжэйнаступных асноўных правіл:

а) кожная папера пішацца толькі па аднаму канкрэтнаму пытаньню, якое тычыцца да аднэй справы (у агульна-канцэлярскім сэнсе);

б) папера складаецца ў 2-х паасобніках — арыгінал і копія (адбітак), калі толькі застаўленьне апошняй пры справах судовага выканаўцы зьяўляецца патрэбным у справаздачных мэтах;

в) зьверху паперы поунасьцю паказваецца найменьне адрасата (атрымальніка) і яго адрас, калі апошні не зьяўляецца агульна-вядомым;

г) выходзячы нумар паперы, які паказвае сабою № нараду, ці № справы, як гэта паказана ўжо ў арт. 2 гэтае інструкцыі, друкуецца на машынцы ці пішацца ад рукі адначасова з выкладаньнем самога зьместу паперы, пры чым, калі выходзячая папера датычыцца справы, то пасьля нумару апошняй пішацца літара „С“ (напрыклад: № 375—С, што азначае № 375 справы), а калі яна да тэй або іншай канкрэтнай справы ня тычыцца, то яна атрымоўвае выходзячы нумар таго нараду, да якога далучаецца яе копія з паказаньнем пасьля нумару літары „Н“ (напрыклад: справаздача аб руху спраў адсылаецца за № 2—Н, калі копія справаздачы хаваецца ў нарадзе № 2).

Увага. Калі выходзячая папера датычыцца тае або іншае справы, якая зарэгістравана і скончана ў адным з мінулых гадоў, то выходзячым нумарам зьяўляецца нумар справы, з паказаньем году яе і нумару нараду, напрыклад № 224—С/28 г. 2—Н.

д) дата адсылкі паперы пішацца асобай, якая падпісвае паперу;

е) у паперы, якая зьяўляецца адказам на запытаньне, перад тэкстам яе паказваецца нумар і дата тае ўваходнае паперы, на якую даная выходзячая папера адказвае (на № ______ за ______);

ж) перад тэкстам больш-менш складанае паперы (ніжэй найменьня атрымальніка і яго адрасу) пішацца кароткі зьмест (напрыклад: „аб растлумачэньні рашэньня ў парадку арт. 185 ГПК").

14. Уся выходзячая карэспандэнцыя запісваецца толькі ў разносную кнігу і нідзе больш не рэгіструецца, а аб адсылцы тае або іншае справы адзначаецца таксама і ў адпаведнай графе рэгістрацыйнай карткі, пры чым, калі выходзячая папера зьяўляецца адказам на атрыманую ўваходную паперу, ці запытаньнем па ёй, то на гэтай уваходнай паперы ў справаздачных мэтах паказваецца дата (арабскімі лічбамі) адсылкі выходзячай паперы, якая зьяўляецца адказам на запытаньне, і пры гэтым, калі папера атрымана ад аднаго карэспандэнта, а адказ на яе пасылаецца другому карэспандэнту, то апроч вышэйпаказанай адзнакі даты адсылкі адказу, пішацца і найменьне таго карэспандэнта, якому пасылаецца адказ данай выходзячай паперай.

15. Для скарачэньня канцэлярскае працы судовай вытворчасьці судовых выканаўцаў уводзяцца штампы тых дзеяньняў, якія штодзённа выконваюцца судовымі выканаўцамі:

1) Паслана позва даўжніку аб выкананьні на „ “______193__г.
уручана______“ “______193__г.
2) Апісана маемасьць______„ “______193__г.
прызначаны таргі ______“ “______193__г.
3) Выканаўчы ліст зьвернут ісцу з прычыны ______
______
4) Па гэтаму выканаўчаму лісту спагнана і выдана ісцу______р. ______кап., астатні доўг ня выканан з прычыны ______
5) Па гэтаму выканаўчаму лісту грошы ўзысканы поўнасьцю і выданы спагнальніку „ “______193 г. Судовы выканаўца______ ______Суда______
6) Выканаўчы ліст дасылаецца па выкананьні судовага выканаўца ______

Адначасна з гэтым журнал выканаўчых дзеяньняў, які паказан у дадатку да арт. 33 інструкцыі аб парадку выкананьня рашэньня па грамадзянскіх справах (Рэв. Зак. № 1-2—1928 г.) вядзецца на адвароце выканаўчага ліста; завядзеньне спраў у вокладцы адмяняецца, за выключэньнем доўгатэрміновых узысканьняў.

### V. Парадак вядзеньня папак.

16. Перапіска, якая непасрэдна не датычыцца да спраў, хаваецца ў адпаведных нарадах, прыкладны пералік якіх, у залежнасьці ад роду сустракаючайся ў судовага выканаўца перапіскі, можа быць паказаны ніжэйнаступны:

1) Нарад з абежнікамі і інструкцыямі кіруючага характару;
2) З справаздачай аб дзейнасьці судовага выканаўца;
3) З апраўдальнымі дакумэнтамі да грашовай кнігі ў выдачы па належнасьці спагнаных па рашэньнях суда грашовых сум;
4) З агульнай перапіскай.

17. Усе паперы падшываюцца да адпаведных нарадаў па меры іх паступленьня ў храналёгічным парадку.

За Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Міхайлаў*.

Нам. Старшыні Найвышэйшага Суда *Гінзбург*.

Дадатак.

УЗОР КАРТКІ З ЗАРЭГІСТРАВАНАЙ НА ЁЙ СУДОВАЮ СПРАВАЮ СУДВЫКАНАЎЦА.

1) 145 2) 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16 ——— 31. 3) № 172

4) Ад Камісарыяту Земляробства БССР паст. 20/X — 1929 г.

5) Судвыканаўца, які вядзе справу – – Пятроў.

6) Выканаўчы ліст выд. Менскім Акрсудом 25/IX—1929 году за № 1715.

7) Спагнальнік:
Камісарыят Земляробства БССР
Адрас спагнальніка: Менск, Савецкая, 70.

8) Даўжнік:
Іваноў Алесь Кастусёў.
Адрас даўжніка, адрас маемасьці: Менск, Маскоўская, 28.

9) Кароткі зьмест судовага рашэньня
Спагнаць 1792 р. 42 к. доўгу па вэксалю з 6% гадав. з 1/IV—29 г. па дзень выплаты і 8 р. 40 к. судвыдаткаў.

11) Дата адпраўленьня справы ў суд.

12) Увага:

Ст. Ат. А5. 148×210 м/м.

10) Рух па справе.

| | Дата | Мес. | Спагнаная сума | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Збораў за выкан. дзеяньні | Гэрбавых збораў | Судмыты | 00% надбаўка ў мясцовыя сродкі | Канц. і позв. збор. | Штраф | У карысьць дзяржавы | У карысьць прыватных асоб | Усяго |
| Даручана позва . | 21 | 10 | | | | | | | | | |
| Апісана маем. . | 29 | 10 | | | | | | | | | |
| Прызн. I тар. . | 9 | 11 | | | | | | | | | |
| Прызн. II тар. . | 17 | 11 | | | | | | | | | |
| Атрым. грошы . | 20 | 11 | | | | | | | | | |
| Выдадзены НКЗ . | 25 | 11 | | | | | | | | | |

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

### пра парадак спагнаньня гэрбавага збору па заявах і скаргах, якія падаюцца пракурорам.

*Асобам пракурорскага нагляду.*

У рабоце Пракуратуры бываюць спрэчныя пытаньні аб аплаце гэрбавым зборам скарг, заяў і іншых дакумэнтаў, якія падаюцца ў Пракуратуру. Калі па судовых (грамадзянскіх і крымінальных) справах гэта вырашаецца больш проста, дык у галіне агульнага нагляду няма той яскравасьці. Таму Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў лічаць неабходным даць наступныя паказаньні:

Па судовых справах.

1. Усе скаргі і заявы па крымінальных справах звольнены ад гэрбовага збору на падставе § 57 Пераліку выняткаў па дзяржаўнаму гэрбаваму збору (дадатак 2 да Статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы); сюды адносяцца і заявы, або скаргі аб злачынствах прыватных

асоб, па якіх павінна быць узбуджана крымінальная справа паводле п. 1 арт. 91 Кр.-Пр. Код. 1927 г.

2. Па грамадзянскіх справах ад гэрбавага збору звальняюцца падаваемыя ў Пракуратуру скаргі асоб, якія па закону былі зводьнены ад гэрбавага збору, пры ўдзеле іх у данай грамадзянскай справе, ці калі самая грамадзянская справа па цане іску зводьнена ад гэрбавага збору (§ 58 Пераліку выняткаў, ІІ-ая частка).

Па агульнаму нагляду.

3. Усе скаргі і заявы, што падлягаюць разгляду Пракуратурай па агульнаму нагляду, як агульнае правіла, падлягаюць аплаце гэрбавым зборам, за наступнымі выключэньнямі:

А. Калі скаргнік адносіцца да ўстаноў, прадпрыемстваў і асоб, якія звольнены ад гэрбавага збору паводле часткі І-й Пераліку выняткаў па гэрбаваму збору,

Б. Калі скарга адносіцца да дакумэнтаў, паказаных у частцы ІІ-й Пераліку выняткаў па гэрбавому збору.

У прыватнасьці трэба адзначыць:

а) скаргі на злоўжываньні і незаконныя дзеяньні службовых асоб (§ 49) у тым выпадку, калі гэтыя злоўжываньні і незаконныя дзеяньні прадугледжаны арт. 195—213 Кр. Код. 1928 году, пры гэтым незалежна ад таго, ці будзе службовая асоба па гэтай скарзе прыцягнута да адказнасьці, ці не;

б) скаргі і заявы на адміністрацыйныя пакараньні, калі прызначаны штраф не перавышае 25 р. або прызначаны прымусовыя работы (апошнія незалежна ад тэрміну) звальняюцца ад гэрбавага збору паводле § 44. Па справах аб лесапарушэньнях ад гэрбавага збору звальняюцца скаргі на спагнаньне ў адміністрацыйным парадку штрафу і страт (карнявога кошту), калі страты разам з штрафам не перавышаюць 25 руб.;

в) скаргі па зямельных справах, калі яны датычаць працоўнага землякарыстаньня (лесакарыстаньня) і зьвязанага з ім земляўпарадкаваньня, звальняюцца ад гэрбавага збору (§ 70 Пераліку выняткаў), але скаргі аб зямлі ў гарадох і мястэчках, якая не складае працоўнага сельска-гаспадарчага двара, падлягаюць аплаце гэрбавым зборам на агульных падставах;

г) скаргі і хадайніцтвы па сельска-гаспадарчаму падатку звальняюцца ад гэрбавага збору на падставе § 44 Пераліку выняткаў па гэрбаваму збору, скаргі-ж гаспадарак, што абкладзены ў індывідуальным парадку, аплачваюцца гэрбавым зборам на агульных падставах;

д) скаргі на самаабкладаньне, што падаюцца Пракуратуры і ёю разглядаюцца, гэрбавым зборам не аплачваюцца;

е) скаргі і заявы, якія пасылаюцца асобам пракурорскага нагляду Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам, Саветам Народных Камісараў, Эканамічнай Нарадай і Народным Камісарыятам РСІ на заключэньне, гэрбавым зборам не аплачваюцца. Калі-ж скаргі ня прыняты паказанымі ўстановамі да свайго разгляду і пасылаюцца пракурорам для разгляду ў парадку нагляду, яны аплачваюцца гэрбавым зборам на агульных падставах.

4. Вусныя заявы, па якіх утвараецца расьследваньне ці іншае распараджэньне, звальняюцца ад гэрбавага збору, але адказы скаргнікам аб выніках разгляду гэтых скарг аплачваюцца, калі па зьместу

справы яна падлягае аплаце гэрбавым зборам і асоба, зрабіўшая заяву, ня звольнена ад гэрбавага збору.

5. Тэлеграфныя заявы і скаргі аплачваюцца гэрбавым зборам на агульных падставах, пры гэтым аб аплаце павінна быць зроблена адзнака службовай асобай тэлеграфа. Калі-ж такой адзнакі няма, гэрбавы збор за тэлеграфную заяву, а таксама за адказ трэба патрабаваць пры дасылцы скаргніку адказу.

6. Калі па аднэй справе падаецца некалькі заяў або скарг, кожная заява і скарга павінна аплачвацца гэрбавым зборам і толькі ў тым выпадку, калі заява зьмяшчае выключна просьбу аб прысьпешаньні разгляду раней пададзенай заявы ці скаргі і ніякіх новых хадайніцтваў не зьмяшчае, яна не падлягае аплаце. За пісьмовыя адказы гэрбавы збор спаганяецца ў залежнасьпі ад ліку адказаў.

7. За дакумэнты, якія далучаюцца да скарг, не павінна пры падачы іх спаганяць гэрбавы збор, калі пры выдачы іх яны ў свой час былі аплачаны гэрбавым зборам. Калі прыкладзены да скаргі або заявы дакумэнт падлягаў аплаце гэрбавым зборам пры выдачы яго, але ён не аплачан, або недастаткова аплачан, гэты дакумэнт або копію з яго трэба накіраваць у мясцовы акруговы фінансавы аддзел.

8. Калі падлягаючая аплаце гэрбавым зборам скарга або заява атрымана бяз гэрбавага збору, а па сутнасьпі справы яна падлягае тэрміноваму разгляду, або калі вырашэньне будзе затрымлівацца выключна неаплатай гэрбавага збору, гэрбавы збор трэба спагнаць пры адказе, або ўручэньнем адказу праз міліцыю, даручыўшы ёй спагнаньне гэрбавага збору і здачу яго ў фінчасьць, або прапановай ў адказе скаргніку ўнесьці гэрбавы збор у адпаведную касу НКФ і паведамленьнем аб гэтым фінаддзелу.

9. Калі скарга падлягае перасылцы Пам. Пракурора або судовай ці іншай установе, не патрэбна затрымліваць перасылку з прычыны неаплаты скаргі гэрбавым зборам, а перасылаючы яе, трэба рабіць допіс у адносіне аб неабходнасьці спагнаць гэрбавы збор.

10. Асобы, вызваленыя ад гэрбавага збору, пералічаны ў Пераліку выняткаў (1-ая частка 2 дадатку да гэрб. статуту). Апроч гэтых ільгот, ад гэрбвага збору можа звальняць, у парадку § 32 Пераліку выняткаў па гэрбаваму збору, суд, але па справе, якую гэты суд разглядае, а таксама пракуроры па справах, якія яны разглядаюць.

11. На пастановах Пракуратуры і адказах у іншай форме трэба адзначаць, што гэрбавы збор узыскан або на падставе якога параграфу Пераліку выняткаў па гэрбаваму збору ня сыскан.

З часу выданьня гэтага абежніку касуецца абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР „Пра парадак узысканьня гэрбавага збору па заявах, паступаючых да асоб пракурорскага нагляду“ за 24/VIII-1926 г. № 104.

Народны Камісар Юстыцыі БССР
і Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

Нам. Народнага Камісара Фінансаў БССР *Л. Бунін.*

25 лістапада 1929 г.
№ 83

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра ўдзел органаў Пракуратуры ў правядзеньні кампаніі праверкі выкананьня каляктыўных умоў.

*Усім акруговым пракурорам.*

У зьвязку з правадзімай у сучасны момант кампаніяй па праверцы выкананьня каляктыўных умоў, на органы пракуратуры, якія ажыцьцяўляюць нагляд за аховай працоўнага заканадаўства і ня могуць ня прымаць удзелу ў гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі, ускладаецца агульная задача па ўзмацненьню нагляду за выкананьнем каляктыўных умоў як з боку наймальнікаў, так і з боку рабочых і служачых, у сэнсе больш жорсткага прыцягненьня вінаватых да адказнасьці за парушэньне гэтых умоў.

Для ажыцьцяўленьня гэтае задачы Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Устанавіць цесную сувязь з органамі, якія праводзяць кампанію па праверцы выканьня каляктыўных умоў, як: органы Наркампрацы, прафсаюзы, рабочыя брыгады і іншыя і на тых падпрыемствах і аб'яднаньях, дзе, па маючыхся зьвестках, мелі месца частыя і злаўмысныя парушэньні ўмоў, прымаць удзел на шырокіх рабочых сходах па праверцы выкананьня гэтых умоў.

2. Пры атрыманьні ад прафсаюзаў альбо паасобных рабочых ці служачых, зьвестак аб парушэньнях, зараз-жа правяраць гэтыя зьвесткі і, калі па праверцы будзе высьветлены злаўмысны характар парушэньня, віноўных аддаваць пад суд па 140 або 201 арт. арт. КК; калі-ж, пры наяўнасьці парушэньня, злаўмыснасьць устаноўлена ня будзе, органы пракуратуры павінны абвяшчаць аб выніках расьледваньня саюзам, а таксама і вышэйстаячай адміністрацыі гаспадарчага органу з мэтай зьнішчэньня гэтых парушэньняў.

3. Неабходна ўстанавіць таксама сувязь з рэдкалегіямі мясцовых фабрычна-заводзкіх насьценных газэт з мэтай атрыманьня ад іх матарыялаў па газэтных заметках аб парушэньнях каляктыўных умоў, пры чым вынікі расьследваньня заметак трэба абвяшчаць у тых-жа газэтах.

4. Для больш шырокага абмеркаваньня работы пракуратуры ў гэтай галіне ставіць даклады на рабочых сходах прафсаюзаў з тым, каб пры гэтых дакладах адначасна даводзіць да ведама і аб выніках праведзеных мерапрыемстваў, у паасобку, аб выніках разгляду судовых спраў.

Аб асабліва злосных парушэньнях каляктыўных умоў, а таксама і аб колькасьці прыцягненьня да адказнасьці за парушэньне гэтых умоў наогул, па сканчэньні кампаніі паведаміць НКЮ.

Народны Камісар Юстыцыі БССР і
Пракурор Рэспублікі *А. Сташэўскі.*

За Пракурора па прац. справах *Курачкін.*

29 лістапада 1929 г.
№ 84.

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі

### пра барацьбу з парушэньнем бюджэтна-касавай дысцыпліны.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

Поўнае падпарадкаваньне бюджэтна-касавай дысцыпліне, эканомнае выдаткаваньне сродкаў і недапушчэньне перавышэньня адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў супроць разьмераў, прадугледжаных у адзіным дзяржаўным бюджэце Саюзу ССР, зьяўляецца аднэй з асноўных дырэктыў Ураду, парушэньне якой можа ў тэй ці іншай форме затармазіць выкананьне 5-ці гадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

Шэрагам законадаўчых актаў прапанавана стала і пільна наглядаць за выкананьнем гэтай дырэктывы і прыцягваць да крымінальнай адказнасьці кіраўнікоў установ, вінаватых у парушэньні бюджэтна-касавай дысцыпліны і скарыстоўваньні дзяржаўных сродкаў не па простаму прызначэньню (З. З. БССР 1929 г. № 3, арт. 17).

Між тым у практыцы органаў дзяржфінкантролю маецца шэраг выпадкаў парушэньня закону і распараджэньняў НКФ па гэтаму пытаньню, а ўзбуджаныя органамі НКФ крымінальныя справы супроць парушыцеляў бюджэтнае дысцыпліны, абгрунтаваныя рэвізійнымі актамі, з боку судова-сьледчых органаў не атрымоўваюць належнай увагі і правільнага вырашэньня. Маюцца выпадкі беспадстаўнага спыненьня такіх крымінальных спраў.

На падставе гэтага і ўлічваючы палітычную значнасьць плянавага і эканомнага выдаткаваньня сродкаў, у сучасны пэрыяд сац. будаўніцтва, Народны Камісарыят Юстыцыі зварачае ўвагу судова-пракурорскіх працаўнікоў на недапушчальнасьць замазваньня спраў, узбуджаных супроць вінаватых у парушэньні закону аб бюджэтна-касавай дысцыпліне і прапануе у далейшым захаваць больш правільны падыход да разьвязваньня судовых спраў, зьвязаных з паказанымі вышэй парушэньнямі.

За Народнага Камісара Юстыцыі БССР *Міхайлаў*.

30 лістапада 1929 г.
№ 85.

---

Узгоднена з НК Юстыцыі і
НК Працы БССР і з ЦСПСБ.

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### пра дапаўненьне інструкцыі свае „Пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г. Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР“.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляе зрабіць наступныя дапаўненьні выданай ім інструкцыі „Пра парадак ажыцьцяўленьня пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 лютага 1929 г.“ „Пра аплату жылых памяшканьняў у гарадох БССР („Бюл. СНК БССР“ 1929 г. № 4):

1. Да артык. 4 інструкцыі дадаць 3-ці абзац:

„Для рабочых і служачых, якія атрымоўваюць заработную плату менш 100 рубл. на месяц, кватэрная плата не павінна перавышаць 10% іх заработнай платы“.

2. Дадаць да інструкцыі наступныя артыкулы:

„20. Утрыманцы, якія жывуць асобна і знаходзяцца на ўтрыманьні рабочых і служачых, плацяць за займаемыя імі памяшканьні па правілах, устаноўленых для рабочых і служачых, але кватэрная плата ўтрыманцаў можа быць вызначана з падрахунку ня звыш 50% заработку асобы, на ўтрыманьні якой утрыманец знаходзіцца.

Утрыманцамі, якім надаецца права, прадугледжанае гэтым артыкулам, могуць лічыцца асобы, паказаныя ў арт. 459 Грамадз. Код.

21. Факт знаходжаньня данай асобы на ўтрыманьні іншай асобы ўстанаўляецца пасьведчаньнем органу міліцыі, а разьмер заработку тых асоб, на ўтрыманьні якіх знаходзяцца даныя асобы, устанаўляецца спосабам, паказаным у арт. 17 гэтай інструкцыі.

22. Інваліды, калі яны зьяўляюцца членамі інвалідных каперацыйных аб'яднаньняў і арцеляў, у дачыненьні кватэрнай платы прыроўніваюцца да членаў прафэсіянальных саюзаў.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

21 лістапада 1929 г.

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

**пра зьмену рэдакцыі п. 2 абежніка свайго за 27 жніўня 1929 г. № 80 „Пра выдачу пасьведчаньняў на права карыстаньня дадатковай па хваробе жылой плошчаю“.**

Народныя камісарыяты Ўнутраных Спраў і Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць зьмяніць п. 2 абежніка свайго за 27 жніўня 1929 г. № 80 „Пра выдачу пасьведчаньняў на права карыстаньня дадатковай па хваробе жылой плошчаю“ (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 9) і запісаць яго ў наступнай рэдакцыі:

„2. Пасьведчаньнем на права карыстаньня дадатковай плошчаю зьяўляюцца заключэньні - дыягназы аб становішчы здароўя, якія выдаюцца ўстановай з памянёных у п. 1-м гэтага абежніка. Пры гэтым заключэньні - дыягназы павінны адпавядаць сьпісу хвароб, пералічаных у абежніку НКУС і НКАЗ, што апублікаваны ў Бюлетэні СНК БССР за 1929 г. № 6.“.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР *М. Барсукоў.*

26 лістапада 1929 г.

---

Узгоднена з НКФ БССР адносьнік за 3/X-1929 г. № 2101—8.

## 13. Дадатковы сьпіс[1])

гаспадарак навучальных устаноў, падпарадкаваных НКА, якім надаецца права крэдытавацца ў крэдытных установах і абавязвацца вэксалямі, браць заказы і рабіць іншыя патрэбныя ўмовы, а таксама ўваходзіць членамі ў арганізацыі і аб'яднаньні, якія ўтвараюцца для

1) Гл. Бюл. СНК за 1927 г. 14(39) і за 1928 г. № 2(45).

агрыкультурных палепшаньняў і тэхнічнага ўдасканаленьня і ня маюць на мэце беспасрэднай камэрцыйнай карысьці:

1. Фэрма пры Яўрэйскай с.-г. школе ў Лукішках Віцебскай акругі.
2. Фэрма пры Яўрэйскім с.-г. Тэхнікуме ў Курасоўшчыне Менскай акругі, замест зьліквідаванай фэрмы пры Яўрэйскай школе Сялянскай Моладзі ў Курасоўшчыне Менскай акругі.

Нам. Народнага Камісара Асьветы *З. Слонім.*

Сакратар НКА БССР *Ю. Савіч.*

13 лістапада 1929 г.
№ 278—19.

---

## 14. Пастанова Народнага Камісарыяту Землябробства БССР

### пра арганізацыю паляўнічага заказьніка ў Панькаўскім лясьніцтве Магілеўскай акругі.

Народны Камісарыят Землябробства БССР пастанаўляе арганізаваць паляўнічы заказьнік тэрмінам на 5 год, з 20 лістапада 1929 г. да 20 лістапада 1934 г., у Крапівенскай дачы Панькаўскага лясьніцтва Магілеўскай акругі на плошчы 1925 га ў кварталах №№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 13, 14, 15, 16, 17, 18 і 19, з уключэньнем у заказьнік у паўднёва-заходняй частцы яго частак зямлі грамадзян вёскі Мухаўкі, Вітунь, Клін і Ганнаўкі, якія ўкліньваюцца ў 16 і 17 кварталы.

Лясьнічаму Панькаўскага лясьніцтва даручаецца ўстанавіць межы заказьніка ў натуры і паставіць слупы па мяжы і апісаньне межаў прыслаць Лясному Кіраўніцтву НКЗ БССР.

Народны Камісар Землябробства БССР *П. Рачыцкі.*

Нам. Загадчыка Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР *Л. Пятрушын.*

Інспэктар Паляўнічай Гаспадаркі
і Пабочных Карыстаньняў *Дзярыба.*

19 лістапада 1929 г.

---

Узгоднена з Штабам Бел. Вайск. Акругі
адносьнік за 14/XI-1929 г. № 2(2)01411.

## 15. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

### пра парадак афармленьня дакумэнтаў і назначэньня сацыяльнага забясьпечаньня непрацаздольным членам сем'яў вайскоўцаў-льготнікаў радавога і малодшага начальніцкага складу, што адбываюць бесьперапынную сапраўдную вайсковую службу ў кадравых частках Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

1. Акруговыя вайсковыя камісарыяты ў тыднёвы тэрмін з дня адпраўкі ў кадравыя часткі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі прызыўнікоў з ліку льготнікаў 2-га альбо 3-га разраду абавязаны даслаць адпаведным раённым выканаўчым камітэтам і гарадзкім саветам адзін экзэмпляр сьпісу па форме (гл. дадатак), уважліва запоўніўшы п.п. 1—5 і 7.

2. Пасьля атрыманьня сьпісу асоба, што зьяўляецца адказнай за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня ў раённым выканаўчым камітэце альбо гарадзкім савеце, ўносіць, калі гэта патрэбна, неабходныя папраўкі ў п. 4 сьпісу, запаўняючы п. п. 8—10 сьпісу і падпісваючы яго (п. 11 сьпісу), кіруючыся пастановай ЦВК і СНК СССР за 4/IX-1929 г. (З. З. СССР—1929 г. № 57, арт. 530), што правам на забясьпечаньне карыстаюцца толькі наступныя члены сям'і прызванага, якія не атрымоўваюць сталага забясьпечаньня па лініі органаў сацыяльнага забясьпечаньня, сацыяльнага страхаваньня, альбо іншых органаў:

а) дзеці, браты і сёстры маладзей 16 год,

б) дзеці, браты і сёстры, якія аднесены па страце працаздольнасьці да аднае з першых трох груп інваліднасьці, калі яны страцілі працаздольнасьць раней 16 год,

в) непрацаздольныя бацькі і супруг, якія аднесены да аднае з першых трох груп інваліднасьці,

г) бацькі і супруг (нават і працаздольныя), якія маюць на сваёй апецы дзяцей, братоў і сясьцёр прызванага маладзей 8 год.

Увага 1. Асобы жаночага полу, што дасягнулі 50 год, і мужчыны 55 год—лічацца непрацаздольнымі і таму патрабаваць ад акрваенкаматаў вызначэньня групы страты працаздольнасьці ня трэба.

Увага 2. Калі ў сьпісе ў адносіне асоб, што паказаны ў п. „б“ гэтага артыкулу інструкцыі, ня будзе паказана, што працаздольнасьць імі страчана да 16-ці гадовага ўзросту, то гарадзкі савет або раённы выканаўчы камітэт маюць права патрабаваць ад гэтых асоб прадстаўленьня адпаведных дакумэнтаў. Пасьля праверкі дакумэнты варочаюцца гэтым асобам з адзнакай у п. 12 сьпісу.

3. Дапамога вызначаецца з дня, што будзе паказаны ў п. 7 сьпісу, бо гэта дата зьяўляецца першым днём службы вайскоўца (З. З. СССР 1928 г. № 51, арт. 449, п. 14 „б—1“) на тэрмін прахаджэньня гэтымі асобамі тэрміновай (нясупыннай) службы ў кадравых частках Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і звыш таго ў працягу двох месяцаў з дня звальненьня ў доўгатэрміновы водпуск (З. З. СССР 1929 г. № 57, арт. 530, п. 3).

Дапамога, як правіла выдаецца грашыма ў разьмеры ставак, што зацьверджаны Саветам Народных Камісараў БССР, за тры месяцы наперад, не пазьней 10 дня першага месяца кожнага кварталу года, паводле абежніку НК Фінансаў і НК Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР за 6/IV—1929 г. № 2402(9)3 (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 4). Пры першай выдачы, калі квартал году наступіў, дапамога выдаецца да канца гэтага кварталу, але з наступнага кварталу яе трэба выдаваць за 3 месяцы наперад.

Па жаданьні асобы, што атрымлівае дапамогу, яна можа быць заменена забясьпечаньнем у відзе зьмяшчэньня ў інвалідны ці дзіцячы дом, больніцу хронікаў, але ў выпадку, калі ў гэтых установах ёсьць

месцы, для чаго гарадзкі савет ці раённы выканаўчы камітэт узгадняе гэта пытаньне з адпаведнымі інспэктарамі акруговага выканаўчага камітэту, а пры наліччы на месцы паказаных вышэй устаноў гарадзкога альбо раённага значэньня, пытаньне вырашае на месцы.

4. Паколькі паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 4/IX—1929 г. (З. З. СССР 1929 г. № 57, арт. 530, п. 1) на забясьпечаньне маюць права толькі асобы, што паказаны ў арт. 2 інструкцыі з ліку знаходзіўшыхся на ўтрыманьні прызванага да дня яго прызыву, пастолькі гарадзкія саветы, раённыя выканаўчыя камітэты абавязаны папярэдзіць галаву сям'і вайскоўца аб тым, што ён абавязаны своечасова паведамляць гарадзкому савету альбо раёнаму выканаўчаму камітэту аб паменшаньні ліку асоб, маючых права атрымоўваць забясьпечаньне і, апроч таго, гарадзкія саветы або раёныя выканаўчыя камітэты абавязаны адзін раз ў год праз абсьледваньне ўстанаўляць правільнасьць атрыманьня забясьпечаньня.

Адзін раз у год павінна быць запатрабавана ад часткі РСЧА даведка аб тым, што вайсковец сапраўды служыць у кадравай частцы ў радавым, альбо малодшым начальніцкім складзе. Паведамленьне гэта запісваецца ў п. 6 сьпісу.

Даведку можна патрабаваць па адрасу, які пакажа радня вайскоўца, альбо праз акруговы ваенны камісарыят, які даслаў сьпіс на вайскоўца.

5. Калі гарадзкому савету альбо раённаму выканаўчаму камітэту стане вядома, альбо яму будзе пададзена вусная або пісьмовая заява аб тым, што ў сям'і вайскоўца, знаходзячагася на тэрміновай (бесьперапыннай) службе ў кадравай частцы РСЧА ў радавым альбо малодшым начальніцкім складзе, у сямейна-маемасным становішчы адбыліся зьмены, якія даюць права на льготу па прызыву, паводле арт. арт. 79—83 Закону пра абавязковую вайсковую службу (З. З. СССР—1928 г. № 51, арт. 449), то ва ўстаноўленым парадку гэта пытаньне павінна быць унесена на вырашэньне мясцовага акруговага вайсковага камісарыяту, які ў выпадку задавальненьня хадайніцтва, высылае сьпіс па форме, што паказана ў арт. 1 інструкцыі. Забясьпечаньне сем'яў гэтых асоб утвараецца з дня наступленьня права на льготу і на тэрмін, што паказаны ў арт. 3 інструкцыі.

6. П. 12 сьпісу служыць для ўнясеньня розных адзнак, напрыклад: зьмены ў разьмеры дапамогі і з якога часу, час зьмяшчэньня ў інвалідны, дзіцячы дом, больніцу хронікаў і г. д., а таксама і адзнакі №№ аркушаў у правай частцы справы, пад якімі лічыцца перапіска па гэтым пытаньні.

7. Ніякіх асабістых спраў на сем'яў чырвонаармейцаў-льготнікаў не заводзіцца.

У справаводзтве гарадзкога савету або раённага выканаўчага камітэту заводзіцца асобная справа: „Пра забясьпечаньне непрацаздольных членаў сем'яў вайскоўцаў", якая складаецца з двух частак: левая—куды зьмяшчаюцца сьпісы акруговых вайсковых камісарыятаў на льготнікаў—і правая, у якой зьмяшчаецца перапіска аб сем'ях гэтых асоб. Аркушы кожнай часткі справы пранумароўваюцца самастойна ад № 1.

Для хуткага знаходжаньня даведкі аб тэй альбо іншай асобе, у п. 12 сьпісу робіцца заўседы сваечасова адзнака, на якім аркушы ў правай частцы справы падшыта перапіска.

8. Пасьведчаньняў, або даведак галаве сям'і вайскоўца аб тым, што ён мае права на атрыманьне забясьпечаньня, не даецца; аб гэтым робіцца афіцыйная даведка на адвароце даведкі, што дадзена сям'і вайскоўца-льготніка акруговым ваенным камісарыятам, з паказаньнем на колькі асоб, з якога часу і ў якім разьмеры даецца забясьпечаньне. Даведка падпісваецца асобай, што адказна за пастаноўку справы сацыяльнага забясьпечаньня.

Нумар даведкі дробны: першая лічба—№ аркушу, пад якім лічыцца гэты сьпіс у левай частцы справы, а другая лічба—чарговы №, пад якім лічыцца вайсковец у сьпісе, напрыклад: 2/1; 1/1 і г. д.

Увага. У выпадку, калі вайсковец-льготнік не пакінуў сям'і даведкі ваенкамату, то яму даецца даведка. Копія даведкі прыкладаецца да правай часткі справы (арт. 7 інструкцыі).

9. Незалежна ад атрыманьня забясьпечаньня, члены сем'яў вайскоўцаў карыстаюцца льготамі і перавагамі паводле існуючых законаў.

12. Сем'і вайскоўцаў, што дэзэртыруюць з шэрагаў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, пазбаўляюцца ўсіх відаў забясьпечаньня.

10. Сем'і чырвонаармейцаў - льготнікаў, што былі прызваны ў 1928 годзе, забясьпечваюцца і надалей паводле вынесеных ў свой час камісіямі па назначэньню пэнсій і дапамог пастаноў і патрабаваць ад акруговых ваенных камісарыятаў прадстаўляць на іх сьпісы (арт. 1 інструкцыі) ня трэба.

11. Гарадзкія саветы і раённыя выканаўчыя камітэты маюць права і павінны клапаціцца таксама аб дачы ўсіх відаў забясьпечаньня, у тым ліку і грашовай дапамогі і льгот сем'ям чырвонаармейцаў з ліку няльготнікаў, прычым грашовая дапамога даецца бяднейшым сем'ям з сродкаў, што даюцца па бюджэту для аказаньня дапамогі асобам, папаўшым у нужду, і можа быць сталай альбо аднačасовай, а льготы даюцца паводле існуючых па гэтым пытаньні законаў.

13. З выданьнем гэтай інструкцыі касуецца п. „а" арт. І, арт. арт. 2—9, разьдз. А, арт. арт. 61 і 69 інструкцыі НКСЗ за 20/IV—1927 г. № 2 (Бюл. СНК. БССР—1927 г. № 11), п. „а" арт. 4 і ўвага да арт. 6 абежніку НКСЗ за 15/V—1929 г. № 4 (Бюл. СНК БССР 1929 г. № 6).

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага
Забясьпечаньня БССР *Л. Адзінцоў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *А. Каржуеў.*

28 кастрычніка 1929 г.
№ 4.

Дадатак да арт. 1 інструкцыі НКСЗ БССР за 28/X—1929 г. № 4.

| № № п/п. | Прозьвішча, імя і імя па бацьку прызванага | Зьвесткі аб льгоце | | Хто (ступень сваяцтва) у сям'і прызванага непрацаздольны, паказаць год нараджэньня, альбо групу страты працаздольнасьці (арт. арт. 81-82 закону пра абавязковую вайсковую службу) | Адрас месца жыцьця, для гораду паказаць: назву вул., № дому | Адрас кадравай часткі РСЧА, у якую накіраваны на службу льготнік | Год, м-ц і дзень прыему прыз. каміс. льготніка на сапраўд. службу ў РСЧА—п. 14 б-I (З. З. СССР—1928 г. № 51, арт. 449) | Адзнакі органаў сац. забясьпечан. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Якога разраду | Пастанова: (№, § прат. прызыўн. камісіі, дата) | | | | | На кольк. чл. сям. назнач. забясьп. | Разьмер у м-ц | | Дата і подпіс адказнай асобы, што запаўн. п. п. 8—10 сьпісу | Розныя далейшыя адзнакі |
| | | | | | | | | | Р. | К. | | |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 1. | | | | | | | | | | | | |
| 2. | | | | | | | | | | | | |
| 3. | | | | | | | | | | | | |
| 4. | | | | | | | | | | | | |
| і г. д. | | | | | | | | | | | | |

(Подпіс адказнай асобы
акр. ваенкамату)..................

М. П.

№..........

„........“..................19......г.

## 16. Загад па Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі БССР

### пра выраб, праверку і кляймяньне вымяральных станкоў для дроў.

Паводле загаду ВСНГ СССР за 8/IV-1929 г. № 605, абвешчанага ў Зб. пастаноў па прамысловасьці за № 15 за 1928/29 г., ВСНГ БССР прапануе прыняць да выкананьня дададаныя да гэтага загаду правілы пра выраб, праверку і кляймяньне вымяральных станкоў для дроў.

Дадатак: Памянёнае.

Нам. Старшыні ВСНГ БССР *Баль*.

Сакратар ВСНГ БССР *Лучышын*.

5 лістапада 1929 г.
№ 50.

---

Дадатак

### Правілы пра выраб, праверку і кляймяньне вымяральных станкоў для дроў.

1. Вымяральныя станкі для дроў ужываюцца для абмерваньня дроў пры водпуску з дробных складаў і робяцца для наступных аб'ёмаў дроў: 0,25; 0,5; 1; 1,5; 2; 2,5; 3 куб. м.

2. Для кожнай даўжыні палена павінны быць асобныя станкі. Для дроў адпаведнай даўжыні палена можа прыстасоўвацца адзін станок для абмеру розных аб'ёмаў; такім чынам устанаўляюцца наступныя тыпы станкоў:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Тып | I станка на | 0,5 м³ для абмеру | 0,6; 0,25 | м³. |
| „ | II „ | „ 1 „ „ | 1; 0,5 | „ |
| „ | III „ | „ 2 „ „ | 2; 1,5; 1 | „ |
| „ | IV „ | „ 3 „ „ | 3; 2,5; 2 | „ |
| „ | V „ | „ 3 „ „ | 3 | „ |

3. Станкі выраблюцца з сухой драўніны, або жалеза.

4. Станкі для дроў складаюцца з наступных частак:
   а) паземнай рамы;
   б) бакавых старчаковых стояк;
   в) зьёмнай перакладзіны.

5. Поўная шырыня рамы павінна раўняцца палену дроў, для абмеркаваньня якіх станок назначаецца.

6. Бакавыя старчаковыя стойкі замацоўваюцца ў дакладна старчаковым напрамку па 4 кутох старчаковай рамы такім чынам, каб адлегласьці паміж іх надворнымі паверхнямі раўняліся даўжыні палена. Верхнія канцы стояк можа зьвязваць паміж сабой уздоўжнымі і папярэчнымі перакладзінамі. Стойкі павінны зьвязвацца з рамай падкосамі.

7. Становішча зьёмнай перакладзіны, якая адпавядае аб'ему дроў, што вымяраецца, павінна адзначацца прарэзамі на знадворных бакох стояк, прычым ніжні бок перакладзіны павінен даходзіць да паказаных прарэзаў.

8. Рама стойкі і зьёмная перакладзіна драўляных станкоў павінны выраблцца з брусоў простакутнага сячэньня, якія павінны быць такіх разьмераў:

| | У станкох: 0,25 і 0,5 м³ | У станкох: 1; 1,5; 2; 2,5 і 3 м³ |
|---|---|---|
| Сячэн. брускоў рамы | ня менш за 6×9 см. | ня менш 7×9 см. |
| „ „ стояк | „ „ „ 6×6 | „ „ „ 7×7 „ |
| „ „ перакладз. | „ „ „ 7×5 | „ „ „ 7×3 „ |

9. Месцы ўрубкі падкосаў у драўляных станкох павінны зьвязвацца вугольнікамі з паласавога жалеза, таўшчынёю ня менш за 5 мм і шырынёю ня менш 25 мм. Брусы паземнай формы павінны зьвязвацца паміж сабой 2 сьцягальн. шворнамі прамерам ня менш за 10 мм., брусы-ж стояк павінны зьвязацца паміж сабой пасярод або сьцягальным шворнам, прамерам ня менш за 8 мм., або папярэчным брусам з сячэньнем ня менш 6×6 см.

10. Зьёмная перакладзіна драўляных станкоў устаўляецца ў адпаведныя для кожнай вышыні кладкі жалезныя скобы, таўшчынёй ня менш 5 мм. Скобы павінны зьмяшчацца на стойках такім чынам; каб ніжні край перакладзіны супадаў з прарэзамі, паказанымі ў § 7.

11. У жалезных станках рамы і стойкі павінны вырабляцца з углавога жалеза, разьмерам ня менш 40×40×5 мм., або з труб у надворным прамеры ня менш за 40 мм. Поласы і трубы рамы павінны зьвязвацца паміж сабой ня менш, чымся 4-ма папярэчнымі жалезнымі папярэчынамі, поласы-ж і трубы—3-ма папярэчынамі. Гэтыя папярэчыны павінны быць таўшчынёю ня менш за 5 мм. і шырынёй ня менш за 25 мм.

12. Зьёмныя перакладзіны ў жалезных станкох павінны вырабляцца з труб у знадворным прамеры ня менш за 40 мм. Перакладзіна накладваецца на стрыжні, якія ўстаўляюцца ў дзіры старчаковых стояк. Дзіры ў станкох павінны рабіцца так, каб ніжні край перакладзіны супадаў з прарэзамі, паказанымі ў § 7.

13. Даўжыня рамы паміж унутранымі паверхнямі замацаваных у ёй старчаковых стояк і вышыня прарэзу на стойцы пад верхняй паверхняй рамы павінны мець разьмеры для пален ходавай дыўжыны, паказаных ў гэтай табліцы:

| Тып | Аб'ём дроу | Даўжыня рамы | Даўжыня палена, якая ўжываецца ў сапраўднасьці | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 33 см. | 35 см. | 50 см. |
| I | 0,25 м³ | 1 м. | 76 см. | 71 см. | — |
| | 0,5 „ | 1 „ | 52 „ | 14 „ | 100 см. |
| II | 0,5 „ | 2 „ | 76 „ | 71 „ | — |
| | 1 „ | 2 „ | 152 „ | 143 „ | 100 „ |
| III | 4 „ | 3 „ | 101 „ | 95 „ | 67 „ |
| | 1,5 „ | 3 „ | 152 „ | 143 „ | 100 „ |
| | 2 „ | 3 „ | 202 „ | 190 „ | 133 „ |
| IV | 2 „ | 4 „ | 152 „ | 143 „ | 100 „ |
| | 2,5 „ | 4 „ | 190 „ | 180 „ | 125 „ |
| | 3 „ | 4 „ | 227 „ | 214 „ | 150 „ |
| V | 3 „ | 5 „ | 182 „ | 172 „ | 120 „ |

Увага. Разьмеры станкоў для пален, якія маюць даўжыню не паказаную ў гэтай табліцы, устанаўляюцца Галоўнай Палатай Мерак і Вагаў.

14. Лінейныя разьмеры станкоў, якія вызначаюць аб'ём дроў, якія зьмяшчаюцца ў іх, не павінны адрозьнівацца ад разьмераў, паказаных у §§ 5 і 13 гэтых правіл больш, чым на 5 мм.

15. Вымяральныя станкі для дроў, якія адпавядаюць гэтым правілам, павінны мець клеймы ўстаноўленага тыпу, пры чым кляймо ставіцца пад прарэзам, які паказвае аб'ем, што вымяраецца.

16. Вымяральныя станкі для дроў, якія не адпавядаюць патрабаваньням гэтых правіл, кляйміцца не павінны і не дапушчаюцца да ўжываньня.

Нам. Старшыні ВСНГ СССР *Манцаў*.

Нам. Старш. Камісіі НТК ВСНГ СССР *Сьвярдлоў*.

---

Час. вык. аб. Адказнага Рэдактара **С. Лодысеў**.